1932

XVIII



# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ





Каля трыбуны ўраду на пляцу Волі (г. Менск) праходзяць калёны дэманстрантаў у дзень сьвяткаваньня XV гадавіны Кастрычніка.

№ 22

# У дні сьвяткаваньня XV гадавіны Кастрычніка ў г. Менску



Рабочая дэманстрацыя на пляцу Волі



Група ўдзельнікаў Кастрычнікавай Рэвалюцыі на пляцу Парыжскай Камуны



Дэманстрацыя рабочых заводу імя Варашылава

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Калектывізацыі ШЛЯХІ

22
1932
ЛІСТАПАД

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І КАЛГАСЦЭНТРУ БССР



ЗЬМЕСТ



## ПАВЫШЭНЬНЕ ЎРАДЖАЙНАСЬЦІ— ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗАДАЧА

**„Трэба зьнішчыць сьляды барбарскай гаспадаркі аднаасобніка, трэба пераараць зямлю па-сучаснаму, трэба зямлю ачысьціць ад дзесяткаў пакаленьняў сарнякоў, трэба прыступіць да ўвядзеньня севазвароту, трэба, па-просту гаворачы, перавесьці зямлю з барбарскага становішча ў культурнае“. (ЯКАЎЛЕЎ).**

На аснове пасьпяховага правядзеньня індустрыялізацыі краіны мы дасягнулі аграмаднейшых посьпехаў і ў сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі. Намі вырашана сусьветна-гістарычнай важнасьці задача стварэньня буйных савецкіх гаспадарак. Пераважная большасьць бядняцка-серадняцкіх гаспадарак Савецкага Саюзу аб'яднаны ў калгасы, а ў важнейшых сельска-гаспадарчых раёнах завершана ўжо ў асноўным суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя кулацтва, як клясы.

**„Дзякуючы посьпехам калектывізацыі калгаснае сялянства ў асноўных сельскагаспадарчых раёнах аб'яднала 80—90 проц. зямлі, знаходзіўшайся раней у аднаасобным карыстаньні. Дробныя палоскі аднаасобных гаспадарак з іх дальнязямельлем, цераспалосіцай, пастаяннымі перадзеламі зямлі аб'яднаны зараз калгасным сялянствам у буйныя масывы“** (з паст. ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

З кожным годам усё больш павышаецца тэхнічная ўзброенасьць сацыялістычнага земляробства. Па адной толькі БССР на калгасных палёх працуе звыш двух тысяч трактароў, а таксама шмат іншых складаных сельска-гаспадарчых машын.

„У выніку ўсяго гэтага пасеўныя плошчы па СССР вырасьлі, у параўнаньні з даваеннымі, на 30 мільёнаў гэктараў, асабліва па тэхнічных і прапашных культурах і травах“. У нас па Савецкай Беларусі пасеўная плошча калгасаў вырасла з 25 тысяч 234 **га** ў 1928 годзе да 1 мільёна 780 тысяч **га** ў 1932 годзе, альбо ў восем раз. Пад ільном плошча вырасла з 680 **га** ў 1928 годзе да 150 тысяч 200 **га** ў 1932 годзе; пад бульбай з 3 тысяч 388 **га**—да 245 тыс. 100 **га**.

„З гэтага вынікае, што пасеўныя плошчы **пашыраны дастаткова** і першая стадыя пад'ёму сельскай гаспадаркі—найбольшае пашырэньне плошчаў—ужо ажыцьцёўлена. Далейшае пашырэньне пасеўных плошчаў па тэхнічных і прапашных культурах, якія зьяўляюцца найбольш працаёмкімі, працягнула-б празьмерную перагрузку рабочай сілы і цягла, пагоршаньне якасьці апрацоўкі і падзеньне

ураджайнасьці. Гэта значыць, што наступіў час, калі **ад росту гаспадаркі ўшыркі,** шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна **павярнуць да** барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, **да барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці**, як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця" (з пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Гэтае ўказаньне партыі і ўраду зьяўляецца баявой праграмай у барацьбе за якасныя паказчыкі ў сельскай гаспадарцы. Ніводная краіна ў сьвеце ня мае такіх шырокіх магчымасьцяй і спрыяючых умоў для павышэньня ўраджайнасьці як наш Савецкі Саюз. Наш Савецкі Саюз стаў краінай самага буйнага земляробства ў сьвеце. Мы можам і павінны стаць краінай самых высокіх ураджаяў у сьвеце.

Асноўнай прычынай нізкіх ураджаяў нашых палёў зьяўляецца тое, што ў большасьці саўгасаў і калгасаў недаацэньваюць элемэнтарных асноў агратэхнікі. Такое становішча надалей нецярпіма.

Трэба **„пераключыць работу ўсіх партыйнасавецкіх, камсамольскіх і гаспадарчых арганізацый, працуючых у галіне сельскай гаспадаркі,—у напрамку павышэньня ўраджайнасьці па ўсіх без выключэньня культурах, як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі, у даны момант"**. На барацьбу за высокі ўраджай сацыялістычных палёў трэба мабілізаваць усю ўвагу калгасьнікаў, рабочых саўгасаў і МТС, а таксама беднякоў і серадвякоў аднаасобнікаў.

Правільны севазварот, добраякасная апрацоўка глебы, пасеў сартавым і добраякасным насеньнем, поўнае і рацыянальнае выкарыстаньне ўсіх відаў угнаеньняў, раньнія тэрміны сяўбы,—шлях да высокіх ураджаяў. За ажыцьцяўленьне гэтых мерапрыемстваў трэба біцца са ўсёй бальшавіцкай настойлівасьцю.

Машына-трактарныя станцыі павінны быць на перадавых пазыцыях у барацьбе за сацыялістычны ўраджай. Усю работу МТС трэба перабудаваць так, каб задачы барацьбы за высокі ўраджай была падначалена бягучая агра-вытворчая работа МТС, маючы на ўвазе, што машына-трактарныя станцыі павінны стаць кіраўнікамі калгасаў ня толькі ў галіне дапасаваньня трактарнай тэхнікі, але і ў галіне агранаміі, у галіне якасьці сельскагаспадарчай вытворчасьці.

Клясавая барацьба яшчэ ня скончана. „І ў далейшым яшчэ няміну чаабвастрэньне клясавай барацьбы ў паасобныя моманты і асабліва ў паасобных раёнах і на паасобных вучастках сацыялістычнай будоўлі" (з рэз. XVII партканфэрэнцыі). Клясавы вораг—кулак, скарыстоўваючы адсталую частку калгасьнікаў, імкнецца пашкодзіць нам і ў барацьбе за сацыялістычны ўраджай. Задача партыйных ячэек—павысіць клясавую пільнасьць, узмацніць работу па сацыялістычным перавыхаваньні калгасьнікаў.

Высокая ўраджайнасьць—аснова арганізацыйнагаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, росту культбытавога ўзроўню калгасьнікаў. Мы маем рад калгасаў, якія паказалі ўзорныя прыклады сапраўднай барацьбы за высокі ўраджай, дабіўшыся аграмаднейшых дасягненьняў. Вопыт гэтых калгасаў іх мэтады працы, правадзімыя імі мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці павінны быць перанесены ва ўсе калгасы.

Сьпіс і падрабязныя апісаньні перадавых калгасаў мы пачынаем з гэтага нумара зьмяшчаць на старонках нашай часопісі. Кожны аграном; брыгадзір, селькор і работнік МТС павінны прыняць актыўны ўдзел у апісаньні калгасаў, асобных брыгад і перадавых калгасьнікаў, якія па-сапраўднаму змагаюцца за высокі сацыялістычны ўраджай.

**Перанясем лепшыя вопыты барацьбы за высокі ўраджай ва ўсе калгасы!**

Барацьба за ўраджай—не кампанія. Яна патрабуе вялікай сыстэматычнай работы на ўсіх вучастках нашага будаўніцтва на вёсцы. Таму, партыйныя, камсамольскія і савецкія арганізацыі вёскі павінны перабудаваць усю сваю работу так, каб забясьпечыць найбольш шпаркае прасоўваньне наперад да атрыманьня высокіх ураджаяў з нашых сацыялістычных палёў.

**За ўсямернае павышэньне ўраджайнасьці!**
**За культурную апрацоўку сацыялістычных палёў!**
**За ўладаньне аграрнай навукай і тэхнікай!**
**Больш ініцыятывы, больш самадзейнасьці ў барацьбе за якасьць сацыялістычнага земляробства.**



Малацьба гароху ў камуне „Чырвоная Зорка", Полацкага раёну

# Усе сілы на барацьбу за высокі сацыялістычны ўраджай

Барацьба за ўраджай—гэта вялікая складаная работа ў сельскай гаспадарцы, якая патрабуе ўпартай сыстэматычнай работы ў няўхільным ажыцьцяўленьні цэлай сумы агратэхнічных, арганізацыйных і іншых мерапрыемстваў.

Вопыт перадавых калгасаў сьведчыць аб вялізарнейшых магчымасьцях у галіне павышэньня ўраджайнасьці. Напрыклад, камуна „Верны шлях“, Дрысенскага раёну, дабілася сярэдняй ураджайнасьці пшаніцы ў 20 **цнт** з 1 **га**, калгас „За ўраджай“, Асіпавіцкага раёну,—185 **цнт** бульбы з 1 **га**, калгас „Прагрэс“, Лёзьненскага раёну, да 4 **цнт** ільнавалакна з 1 **га** і рад іншых калгасаў дабіліся павялічэньня ўраджайнасьці ў два-тры разы супроць суседніх калгасаў і аднаасобных гаспадарак.

Якія практычныя задачы стаяць перад усімі калгасамі і ўсімі работнікамі калгаснай сыстэмы ў выкананьні важнейшага рашэньня партыі і ўраду па ўздыму ўраджайнасьці?

## Увесьці правільны севазварот

**„На працягу 1933 году ўвесьці ва ўсіх саўгасах і калгасах севазварот, як адзін з лепшых сродкаў падвышэньня ўраджайнасьці“** (з пастановы ЦК і СНК). Гэта важнейшая задача пасьпяхова можа быць вырашана толькі пры ўмове мабілізацыі шырокай партыйнай, савецкай і калгаснай грамадзкасьці, таму, што ўнядрэньне севазваротаў сустракае супраціўленьне з боку клясавага ворага, кулака і яго агентаў. Работа па ўстанаўленьні севазваротаў зьяўляецца складанай работай, патрабуючай выключнай клясавай пільнасьці для забясьпечаньня народна-гаспадарчага пляну.

Што значыць увесьці правільны севазварот? Гэта значыць правільна разьмясьціць плянавыя заданьні па пасеву паасобных культур на тэрыторыі гаспадаркі, устанавіць правільнае чаргаваньне культур. Правільна ўстаноўлены севазварот у значнай ступені вырашае і пытаньні барацьбы з засьмечанасьцю палёў, правільнай арганізацыі апрацоўкі глебы, тэрмінаў сяўбы і ўборкі, найбольш рацыянальнага скарыстаньня насеньня, угнаеньня, машын, працоўнай і цягавай сілы.

Мы маем рад прыкладаў, калі пад знакам „правільных“ севазваротаў зьніжаецца пасеў збожжавых з мэтай нібы-та забясьпечаньня кармовай базы, пашырэньня плошчаў пад вядучымі культурамі з лёнам і бульбай, наогул спэцыялізацыі гаспадаркі.

Такія севазвароты зьяўляюцца вынікам „лявацкіх“ заскокаў. Вядучы рашучую барацьбу з імі, неабходна дабівацца пры ўстанаўленьні севазваротаў такога становішча, каб, з адначасовым разьвіцьцём вядучых культур, не скарачаць збожжавых, а ўсямерна садзейнічаць росту прадукцыі іх. Нельга абмежавацца добра складзеным на паперы севазваротам. Для партыйных і савецкіх арганізацый, аграномаў, севазварот выклікае перастаноўку сіл і сродкаў у калгасе, неабходнасьць правільнай пабудовы брыгад і адпаведнага забясьпечаньня іх сродкамі вытворчасьці. Няправільнае вырашэньне гэтых пытаньняў у калгасе можа выклікаць зрыў устаноўленых севазваротаў.

## Якасьць апрацоўкі глебы—у цэнтр увагі

Паставіць пытаньне якасьці апрацоўкі глебы ў цэнтр увагі ўсіх МТС, калгасаў і вытворчых брыгад.

Вырашэньне гэтай задачы павінна ісьці ў асноўным па двух напрамках: у напрамку сваячасовай і добраякаснай апрацоўкі папару і ў напрамку барацьбы за сваячасовае, добраякаснае і найбольш поўнае выкананьне зяблівага ворыва. Мы ведаем, што апрацоўка папару і зяблівае ворыва зьяўляюцца магутным сродкам барацьбы з засьмечанасьцю палёў, што яны садзейнічаюць накапленьню спажыўных матэрый у глебе. Спазьненьне з апрацоўкай папару і зябі зьяўляецца зьлейшым відам безгаспадарчасьці, бо яны даюць магчымасьць разьвівацца сарнякам, бескарысна выкарыстоўваючы каштоўнейшыя ўласьцівасьці глебы. Таму, на сваячасовасьць правядзеньня гэтых работ павінна звярочвацца асаблівая ўвага.

Ня трэба забываць і таго, што зяблівае ворыва ёсьць адно з асноўнейшых арганізацыйных мерапрыемстваў у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Толькі найбольш поўна праведзенае ворыва на зяб дае магчымасьць вызваліць частку рабочай і цягавай сілы ў пэрыяд веснавых работ для таго, каб скарыстаць яе на іншых работах па сяўбе і тым самым правесьці сяўбу ў больш раньнія тэрміны і больш добраякасна.

Было-б няверна, калі-б абыйсьці моўчкі значэньне МТС у якасьці апрацоўкі глебы. МТС у гэтым пытаньні павінна адыгрываць вядучую ролю.

## Сеяць толькі добраякасным насеньнем

Падрыхтаваць поўнасьцю добраякаснае насеньне па ўсіх культурах, згодна пляну пасеўнай плошчы на 1933 год.

Неабходна ўлічыць вопыт мінулага году, калі па вядучых культурах быў значны недасеў з прычыны недахопу насеньня. Былі выпадкі псаваньня насеньня з прычыны няўважлівых адносін да хаваньня насеньня, што таксама зьменшыла насенныя рэсурсы калгасаў. Шмат якімі калгасамі насенфонды абязьлічваліся і скарыстоўваліся на кармовыя мэты.

Асноўны ўпор павінен быць накіраван на стварэньне фондаў гатунковага і палепшанага насеньня. Увесь ураджай 1932 г. гатунковых і палепшаных пасеваў павінен быць скарыстан выключна на насенныя мэты, шляхам міжкалгаснага абмену. Трэба мець на ўвазе, што гатунковыя пасевы даюць падвышэньне ўраджайнасьці на 25 і больш процантаў.

---

**„На працягу 1933 году ўвесьці ва ўсіх саўгасах і калгасах севазварот, як адзін з лепшых сродкаў павышэньня ўраджайнасьці“** (*з пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР*).

Таму **скармліваньне гатунковага насеньня трэба лічыць як адным з відаў растраты калгасных сродкаў.**

**Ніводнага кілёграму гатунковага насеньня на корм! Ніводнага га пасеву нядобраякасным насеньнем!** Пад такім лёзунгам павінен быць праведзен сартаабмен калгасамі яшчэ да наступленьня зімы.

Нарэшце для насенфондаў павінны быць прадастаўлены найлепшыя ўмовы хаваньня (у дэзынфэкаваных, добра праветрываемых, сухіх памяшканьнях з вызначэньнем адказных асоб за хаваньне і сталы нагляд за насенфондамі, асабліва за насеньнем бульбы, лёну, лубіну, вікі). Зрабіць адказнымі за ссыпку і хаваньне насеньня ня толькі кладаўшчыкоў і вартаўнікоў, але і брыгадзіраў сталых вытворчых брыгад.

## Поўнасьцю і рацыянальна выкарыстаць гной

Можна проста сказаць, што пры глебавых умовах БССР без угнаеньняў немагчыма атрымаць добрых ураджаяў. Цэлая сыстэма мерапрыемстваў павінна быць ажыцьцёўлена і ў вырашэньні гэтай задачы.

Пытаньнем гною ў нас да гэтага часу амаль не займаліся, а кулак тым часам рабіў сваю справу. Той гной, які самацёкам накапляўся ў калгасах— заставаўся ляжаць у хлявох па 2-3 гады. Гной калгасьнікаў ад неабагуленай жывёлы вывозіўся выключна на іх уласныя гароды, часта так празьмерна, што пасевы ня вытрымлівалі лішку яго і гінулі.

Трэба паставіць перад кожнай жывёлагадоўчай, паляводчай, гародняй брыгадамі задачу максымальнага накапленьня гною, шляхам загатоўкі ўжо з восені падсьцілачнага матар'ялу (саломы, торфу, лісту, моху і г. д.), збору гною па дварох, вуліцах, у мясцох грамадзкіх стаянак жывёлы, прывозу з мястэчак, гарадоў і г. д., максымальнага **выкарыстаньня гною калгасьнікаў ад неабагуленай жывёлы на калгасных палёх за плату.**

## Выкарыстаць торф на ўгнаеньне

Ня менш важна і пытаньне торфаваньня глебы, якое дае амаль такое-ж павышэньне ўраджайнасьці, як і гной. Значную ролю ва ўмовах ападзоленых глеб БССР адыгрывае і вапнаваньне. Аднак і гэтыя мерапрыемствы да гэтага часу не ажыцьцяўляліся калгасамі. Зусім недапушчальныя адносіны наглядаліся і да скарыстаньня мінэральных угнаеньняў.

На падставе шырокага растлумачэньня пастановы ЦК і СНК неабходна мабілізаваць шырокія калгасныя масы на максымальна поўнае ажыцьцяўленьне ўсіх мерапрыемстваў па ўгнаеньні глебы, а таксама і на правільнае скарыстаньне ўгнаеньняў. Мала ўнесьці ўгнаеньне, трэба ведаць якое ўгнаеньне, на якім вучастку, пад якую культуру, у якой колькасьці і калі яго трэба ўнасіць, а таксама—як выгадней яго заворваць. Гэта—асноўнае, аб чым не павінен забываць кожны брыгадзір пры ўгнаеньні глебы.

## Лубінізацыя пясчанай глебы павышае ўраджай

Асобным пытаньнем, на якім павінна быць завострана ўвага калгасьнікаў, зьяўляецца пытаньне пашырэньня пасеваў лубіну.

Лубінізацыя асабліва пясчаных і супясчаных глеб зьяўляецца першачарговым мерапрыемствам ва ўсёй сыстэме работы па ўгнаеньні. Таму, поўнае захаваньне і выкарыстаньне насеньня лубіну для пасеву павінна быць пастаўлена ў цэнтр увагі. Гэтаму вучыць нас вопыт калгасу „Новае жыцьцё“ Б.-Кашалёўскага раёну, які на лёгкіх супяскох дабіўся ўраджаю з **1 га** ў 110 **цнт**, канюшыны-сена ў 25 **цнт**, тады як раней давала толькі 30—40 **цнт**, а канюшыну зусім нельга было сеяць. Калгас „Новае жыцьцё“, яшчэ ў 1928 г. пасеяў лубін, па лубіну жыта. Пасьля ўборкі жыта на зіму вывез і заахаў добра праветраны торф у колькасьці 60 вазоў на **1 га**, у 1930 г. пасеяў бульбу па гнаі ў колькасьці 40 вазоў на **1 га**; пасьля бульбы пасеяў ячмень з падсевам канюшыны. Вясной пад канюшыну ўнёс сільвініту ў колькасьці 2,5 **цнт** на **1 га.**

Гэта значыць, што калгас „Новае жыцьцё“ паставіў задачу павышэньня ўраджайнасьці зусім на неўраджайнай зямлі і гэтую задачу ён вырашыў ажыцьцяўленьнем цэлай сыстэмы мерапрыемстваў па ўгнаеньні на працягу раду гадоў. Такую задачу павінен паставіць перад сабой кожны калгас і для пасьпяховага яе вырашэньня павінен змагацца з года ў год за накапленьне ўгнаеньняў; павінен паставіць на належную вышыню пытаньне якасьці апрацоўкі глебы і раньнія тэрміны сяўбы.



Асеньняя сяўба ў калгасе імя Сталіна



Калгасьніца-ўдарніца за ўборкай ільну (Аршанскі раён)

## Радковы пасеў, ачышчанае і пратручанае насеньне забясьпечвае высокі ўраджай

Радковы пасеў усіх культур у 1933 годзе павінен быць забясьпечан на 100 проц. Гэтым будзе з'эканомлена сотні тысяч цэнтнэраў насеньня і падвышан ураджай на 10—15 проц.

Нарэшце, трэба навучыцца сеяць толькі ачышчаным і пратручаным насеньнем, праверанем на ўсходжасьць і чыстату, па нормах высеву, устаноўленых для кожнага вучастку суадпаведна якасьці насеньня, угноенасьці і падрыхтаванасьці вучастку. Мабілізаваць калгасныя масы на барацьбу з стратамі.

Рашаючым пэрыядам года зьяўляюцца: пэрыяд догляду за пасевамі і пэрыяд уборкі. Несвоечасовая прапалка, абсыпка, барацьба са шкоднікамі і ўборка—выклікаюць вялікія страты, якія даходзяць у паасобных выпадках да 100 проц. ураджаю.

## Сталая вытворчая брыгада адказвае за ўраджай

Толькі сталая вытворчая брыгада вырашае посьпех барацьбы калгасаў за высокі ўраджай. Трэба прагледзіць склад брыгад. Улічыўшы вопыт іх у гэтым годзе, праверыць прымацаваньне брыгад да вучасткаў і тэхнічную іх узброенасьць. Праверыць канкрэтна па брыгадах, што патрэбна зрабіць, каб канчаткова дабіцца ураўнілаўку і абязьлічку. Лепш скарыстаць цягавую і працоўную сілу, машыны, інвэнтар, перагледзець пастаноўку вучоту. Кожная брыгада ўжо з восені павінна ведаць свой вучастак, на якім яна будзе праводзіць сяўбу і ўборку ў 1933 годзе і адказваць за ўраджай.

Вопыт калгасу „Ленінскі шлях", Дрысенскага раёну, павінен быць скарыстан усімі калгасамі БССР. Гэты калгас, пры папярэднім разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю, блізка падыйшоў да ацэнкі работ кожнай брыгады, выяўлены лепшыя брыгады, якім падвышана ацэнка працадня, вопыт якіх улічан іншымі брыгадамі пры вызначэньні канкрэтных задач на будучы год.

## Перадавую агратэхніку—у масы калгасьнікаў

Бяз высокай перадавой агратэхнікі няма якасьці сельска-гаспадарчых работ. „Трэба зламаць недаацэнку агратэхнікі і спрошчанага разуменьня яе, як простай сумы тэхнічных прыёмаў, даўно, моў, вядомых кожнаму селяніну. Агратэхніка—гэта складаны комплекс, цэлая сыстэма ўзаемна зьвязаных паміж сабой тэхнічных прыёмаў у суровай суадпаведнасьці з прыроднымі асаблівасьцямі, тэхнічнай узброенасьцю, спэцыялізацыяй і вытворчымі заданьнямі гаспадаркі. Тут няма ўстанаўленьня „рацэптаў", а тэхнічныя прыёмы трэба ўстанавіць на месцы, выходзячы з канкрэтных умоў кожнага калгасу і паасобнага вучастку. Вось чаму шкодны ўпрашчэнскія погляды на агратэхніку, але нельга і баяцца складанасьці агратэхнікі. Патрэбна больш сьмела вывучаць яе шляхам арганізацыі шырокага абмену вопытам лепшых перадавых саўгасаў, калгасаў, брыгад.

Роля агранома ў пытаньні ўнядрэньня агратэхнікі набывае выключна-важнае значэньне. **З простых прапагандыстаў сельска-гаспадарчай культуры, аграномы павінны стаць актыўнымі ўдзельнікамі самой арганізацыі саўгаснага і калгаснага будаўніцтва"** (Молатаў).

Аграном **А. Лашкевіч.**



Сілёсная вежа камуны „Чырвоная зорка", Полацкага раёну

# Усебеларускі сьпіс гонару
## змагароў за высокі ўраджай

З гэтага нумару часопісь „Шляхі калектывізацыі“ пачынае друкаваць Усебеларускі сьпіс гонару, у які будуць заносіцца калгасы, сабраўшыя ў гэтым годзе найбольш высокі ўраджай.

Права на ўключэньне ў сьпіс гонару атрымлівае той калгас, які ў сярэднім з кожнага засеянага гэктара сабраў ураджаю звыш устаноўленага ўрадам кантрольнага заданьня, вышэй, чым вакольныя калгасы, саўгасы і аднаасобнікі.

Права на ўключэньне ў сьпіс дае фактычны збор ураджаю, г. зн. у разьлік будзе прымацца тая прадукцыя, якая здана дзяржаве, знаходзіцца ў калгасным сьвірну і раздана калгасьнікам у парадку разьмеркаваньня даходаў.

Кандыдатуры калгасаў, якія заявяць аб сваім праве знаходзіцца ва ўсебеларускім сьпісу гонару, будуць разглядацца асобнай камісіяй, якая створана пры Калгасцэнтры БССР.

Таварышы аграномы, інструктары, брыгадзіры і рабселькоры! Праўленьне Калгасцэнтру, рэдакцыя часопісі „Шляхі калектывізацыі“ і газэты „Калгасьнік Беларусі“ чакае ад вас апісаньняў дасягненьняў лепшых калгасаў, брыгад і т. д.

Асноўныя паказчыкі змаганьня за права быць занесеным у сьпіс гонару надрукаваны ў № 19 часопісі „Шляхі калектывізацыі“ за кастрычнік 1932 год.

Першымі кандыдатамі ў сьпіс гонару мы заносім:

1) **Камуна „Прагрэс“** Глоданскага сельсавету, Лёзьнянскага раёну, дасягнула ўраджаю жыта 10 цэнтнераў з **га** замест 4 **цнт** у мінулым годзе. Па ільну 3,5 **цнт з га.**

2) **Калгас „Відны шлях“**, Дашкоўскага сельсавету, Магілеўскага раёну, сабраў ураджай: аўса—7,5 **цнт з га**, ячменю 10,6 **цнт**, бульбы 104 **цнт**, гуркоў—280 **цнт.**

3) **Нацыянальна-яўрэйскі калгас „Карпачы“**, Клімавіцкага раёну, дасягнуў высокіх посьпехаў у падвышэньні ўраджайнасьці, дзякуючы добрай апрацоўкі глебы і ўжываньня мінэральных угнаеньняў. Гэктар жыта дае больш за 20 цэнтнераў, бульбы каля 100 **цнт** і 1 гэктар ячменю 13,5 **цнт** ураджаю.

4) **Калгас „9 студзеня“** Дзяржынскага раёну, у сёлетнім годзе правёў вялікую работу па ўздыму ўраджайнасьці. Калі ў мінулым годзе гэктар жыта даваў 8,5 **цнт**, то ў сёлетнім—13,5 **цнт.** і аўсу з 7,5 **цнт** дамогся 13 цэнтнераў.

5) **Калгас „Чырвоны Лепель“**, Лепельскага раёну правёў значную работу па ўздыму ўраджайнасьці бульбы. Калі ў мінулым годзе гэктар даваў толькі 60 цэнтнераў, то ў гэтым годзе ўраджай бульбы з аднаго гэктару дасягнуў 133,5 цэнтнера.

6) **Камуна „Праца“**, Ельскага раёну, па ўраджайнасьці бульбы абагнала перадавыя па ўраджайнасьці капіталістычныя дзяржавы, дабіўшыся 300 **цнт** ураджаю бульбы з аднаго *га.*

(*Праця́г у наступным нумары*).



Птушкаводная ферма камуны „Прамень сацыялізму“.

# Саўгасы—на перадавыя пазыцыі ў барацьбе за ўраджай

У справе ўзьняцьця ўраджайнасьці калгасаў, саўгасы павінны адыграць вялікую ролю з сваімі машынамі, а таксама і сіламі спэцыялістаў. І мы маем рад фактаў гэтай дапамогі.

Напрыклад, саўгас „Новасёлкі“, Дзяржынскага раёну ў 1931 годзе аказаў вялікую дапамогу калгасьнікам і аднаасобнікам у рамонце інвэнтару, а таксама ў разгары работы забясьпечыў неабходнымі машынамі і прыладамі. У гэтым годзе саўгас даў быў 1 касілку, 3 плугі, 3 радовыя сеялкі калгасу „Пабеда“.

Саўгас імя Леніна, Смалявіцкі раён, таксама шмат дапамагае суседнім калгасам. Так, калгасу імя Молатава была дадзена на карыстаньне—жатка на 10 дзён, конныя грэблі на 5 дзён і калгасу „Ленінец“ 1 касілку на 5 дзён, конныя граблі на 4 дні і жатку на 5 дзён.

Вялікую дапамогу саўгас „Вішнёўка“ аказаў калгасу „Пабеда“, а таксама „Чырвонаму курсанту“ у справе ачысткі насеньня і забесьпячэньня ачышчаным гатунковым насеньнем.

Трэба, аднак, сказаць, што тую дапамогу, якую аказваюць калгасам саўгасы, ні ў якім разе нельга лічыць дастатковай. У саўгасах ёсьць вялікая колькасьць машын. Саўгасы маюць шмат спэцыялістаў. Пры належнай расстаноўцы сіл і сродкаў кожны саўгас мог-бы зрабіць у некалькі раз больш таго, што ім робіцца зараз у справе дапамогі калгасам. А гэта дало-б магчымасьць калгасам яшчэ лепш арганізаваць сваю гаспадарку і ў сваю чаргу аказаць саўгасам яшчэ большую дапамогу ў справе забесьпячэньня іх патрэбнай працоўнай сілай.

Але ў некаторых саўгасах зусім недаацэньваецца гэтая вялізарнейшая справа, як з боку дырэкцыі, так і з боку грамадзкасьці. Гэтыя саўгасы зусім ня лічаць сваім абавязкам прасоўваць свае дасягненьні ў акаляючыя калгасы. Справа агравытворчай узаемадапамогі паміж саўгасамі і калгасамі ў гэтых саўгасах лічыцца зусім не актуальнай. Дырэктары гэтых саўгасаў толькі тады дапамагаюць калгасам, калі самі калгасы зварочваюцца да іх за дапамогай, ці калі атрымаецца адпаведнае распараджэньне з боку вышэйшых арганізацый. Па сваёй-жа ініцыятыве гэтыя дырэктары ідуць на дапамогу калгасам толькі тады, калі неабходна атрымаць ад калгасаў патрэбную колькасьць працсілы на ліквідацыю таго ці іншага прарыву ў сваім саўгасе.

І наадварот, ёсьць такія калгасы, якія карыстаюцца дапамогай саўгаса і маюць магчымасьці для вылучэньня саўгасу ў патрэбны для яго час пэўнай колькасьці працсілы, але на заключэньне дагавароў з саўгасамі згаджаюцца толькі тады, калі патрэбна атрымаць ад саўгаса машыны для ліквідацыі прарыва ў сваёй гаспадарцы.

А ёсьць і калгасы, якія недапушчальна адносяцца да саўгаснай маёмасьці. Напрыклад, калгас „Ленінец“, Смалявіцкага раёну, атрымаўшы ад саўгаса імя Леніна тукавую сеялку, зусім згнаіў яе і зьвярнуў саўгасу толькі колы. Зусім зразумела, што такія зьявішчы ні ў якім разе ня спрыяюць умацаваньню нармальных адносін паміж саўгасамі і калгасамі.

Вельмі марудна перабудоўваюць сваю працу ў бок аказаньня аградапамогі акаляючым калгасам і саўгаснае бюро ІТР. У саўгасах ёсьць яшчэ асобныя спэцыялісты, якія за 6—10 месяцаў сваёй працы не наведалі ніводзін суседні калгас.

Трэба абвясьціць рашучую барацьбу з праявамі недаацэнкі агравытворчай узаемадапамогі паміж саўгасамі і калгасамі. Трэба безадкладна зжыць тыя ненармальнасьці, якія зараз маюцца паміж асобнымі саўгасамі і калгасамі ў гэтай справе. Кожны саўгас павінен мець цьвёрды плян аграВытворчай дапамогі акаляючым калгасам, пабудаваны на аснове адпаведных дагавароў. За выкананьне гэтага пляну павінна змагацца адміністрацыя і ўвесь рабочы калектыў саўгасу як за выкананьне свайго прамфінпляну.

У сваю чаргу кожны калгас, пры складаньні вытворчага пляну на новы год, разам з выдзяленьнем адыходнікаў у прамысловасьць, павінен прадугледзіць, па дагавору з саўгасам, выдзяленьне апошняму пэўнай колькасьці рабочай сілы.

У напрамку ажыцьцяўленьня пастановы ЦК і СНК аб падвышэньні ўраджайнасьці, неабходна безадкладна падвесьці маючыя дасягненьні ў кожным саўгасе, у кожным калгасе і МТС шляхам арганізацыі спэцыяльных нарад саўгаса, разам з калгасьнікамі і МТС, з мэтай безадкладнага ўнядрэньня дасягненьняў асобных саўгасаў і калгасаў ва ўсе калгасы і саўгасы БССР.

Брыгада саўгаснага інстытуту
**Рабышко, Белаусаў, Гарэлікаў.**

# Кітайскі нацыянальны калгас змагаецца за ўраджай

*(Віцебскі раён)*

У 1928 годзе на землях запаснога фонду Мікалаеўскага сельсавету, Віцебскага раёну нарадзіўся нацыянальна кітайскі калгас „Маркавічы“.

На прыкладах барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне гэтага калгасу з усёй яскравасьцю бачна, як на справе ажыцьцяўляецца Ленінская нацыянальная палітыка нашае партыі.

Калгас „Маркавічы“ мае садова-гародную спэцыялізацыю. Правільная арганізацыя працы і расстаноўка сіл, ужываньне на справе агратэхнікі забясьпечылі высокі ўраджай калгаснага гароду. Ураджай памідор з аднаго **га** дасягае трох тысяч пудоў. Добры ўраджай і гуркоў, ураджай якіх таксама дасягае каля трох тысяч пудоў з **га**.

У адказ на ліст Ленінградзкіх рабочых у 15-тую гадавіну Кастрычнікавае рэвалюцыі калгасьнікі нацыянальна-кітайскага калгасу „Маркавічы“ адзначылі наступнымі канкрэтнымі перамогамі за сваё арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне. Плян здачы (продажу) бульбы дзяржаве калгасьнікі датэрмінова выканалі з перавыкананьнем пляну на 20 цэнтнераў. Замест 40 цэнтнераў па пляну, калгасьнікі прадалі дзяржаве 120 цэнтнераў прадукцыі саду. Перавыканан плян і па здачы (продажу) дзяржаве гародніны.



Ударнік нацыянальна-кітайскага калгасу (на Віцебшчыне) т. Ві-Дэі-Ша прэміяваны за добры догляд за коньмі.

Прапрацоўка пастаноў партыі і ўраду па пытаньнях разгортваньня савецка-калгаснага гандлю ў калгасе суправаджалася канкрэтнай баявой работай па павышэньні ўраджайнасьці калгаснага гароду. Гэта забясьпечыла практычны ўдзел калгасу ў разгортваньні савецка-калгаснага гандлю.

Праз калгасна-савецкі рынак калгасьнікі калгасу „Маркавічы“ рэалізавалі прадукцыі саду і гароду на суму каля 20 тысяч рублёў. Удзел у разгортваньні калгасна-савецкага гандлю забясьпечыў калгасьнікам павялічэньне аплаты працадня.

Апрача прадуктовай часткі калгасьнік атрымлівае грашыма па 3 р. 50 к. на працадзень.

Нельга не адзначыць і таго, што калгасьнікі калгасу „Маркавічы“ па ўдарнаму правялі падпіску на пазыку імя „Чацьвертага завяршаючага году пяцігодкі“. Падпіскай на пазыку ахоплены ўсе працаздольныя калгасьнікі ў суме 40—50 рублёў кожны. Старшыня калгасу т. **Джан-Ван Фу** падпісаўся на 100 руб., яго прыкладу пасьледваў актыў і ўсе калгасьнікі.

15-цігодзьдзе Кастрычнікавае рэвалюцыі калгасьнікі нацыянальна-кітайскага калгасу „Маркавічы“ адзначылі поўным унясеньнем узносаў па падпісцы на пазыку.

Старшыня гэтага калгасу т. **Джан-Ван-Фу**, як лепшы ўдарнік фінансавага фронту, Цэнтральным камсодам пры прэзыдыуме ЦВК БССР, за ўзорна праведзеную рэалізацыю пазыкі, за энтузіязм, энэргію і ўдарныя тэмпы работы—прэміяван.

Нацыянальна-кітайскі калгас „Маркавічы“ у выкананьні ўсіх гаспадарча-палітычных задач зьяўляецца адным з перадавых калгасаў Віцебскага раёну.

**Б-вы.**

# Скарыстаць прыклады лепшай працы

*(Лепельскі раён)*

Калгас „Чырвоны Лепель“ вырас з 12 гаспадарак—у 72 гаспадаркі з плошчаю 400 **га** пахаці і 100 **га** сенажаці. У дзень 15-й гадавіны Кастрычніка споўнілася роўна тры гады яго існаваньня. „Чырвоны Лепель“—калгас мае ўхіл разьвядзеньня і забясьпечаньня нашых гарадоў садавінай і гароднінай.

Уся ўвага калгасу зараз накіравана на пашырэньне плошчы пасеву гародніны і садавіны, а таксама падвышэньне іх ураджайнасьці. Так, калі ў 1931 г. было гародніны ўсяго 5 **га**, дык у 1932 г. гароднінай засеяна 22 **га** і раньняй бульбы 26 **га**.

Ураджай гародніны і бульбы значна павысіўся параўнаўча з 1931 годам. Калі ў мінулым годзе ўраджай 1 **га** бульбы быў 360 пуд., то ў гэтым годзе 1 **га** бульбы дае 800 пудоў. Калгас шырока разгарнуў калгасны гандаль, што дало вялікія вынікі ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасу. За гародніну і садавіну на калгасных базарах калгас атрымаў 12 тысяч руб., што дасьць магчымасьць разгарнуць будаўніцтва і закупіць новыя сельска-гаспадарчыя машыны.

Значна пашырылася плошча саду. У 1931 годзе было засаджана 20 **га**, на гэты-ж год ужо маецца 40 **га** маладога засаджанага саду.

Адначасова калгас арганізаваў кральчатнік.

На кральчатніку калгас таксама дабіўся значных дасягненьняў. З 8-мі трусоў разьведзена каля 300 штук. На сёнешні дзень калгас падрыхтаваў 82 трусы для здачы дзяржаве.

Для таго, каб ня траціць вялікія грошы на перавозку садавіны ў іншыя заводы, абсталяван свой завод па перапрацоўцы садавіны і гародніны.

Завод будзе даваць прадукцыі штогодна 100 тон. Адначасна пры заводзе арганізоўваюцца два цэхі—лесапільны і масладзельны. Чыстага прыбытку завод будзе даваць каля 100 тысяч руб.

У выніку гэтай вялікай работы, калгасьнікі, пры разьмеркаваньні ўраджаю і грашовых прыбыткаў

атрымалі па 1 кілё жыта, па 4 кілё бульбы на працадзень і па 1 р. 50 к. грашыма. Так паасобныя калгасьнікі, прыкладам: **Сільвановіч** працавала разам з сваёй сям'ей, выпрацавала 1271 працадзень, атрымала 1001 кілё жыта і 1500 руб. грашыма, **Місьнік** Давыд — 1 пр цаздольны мае 400 працадзён, атрымоўвае грашыма 600 руб.

Але маюцца і такія калгасьнікі, якія рэдка зьяўляліся на працу, як **Бузыцкі** С. выпрацаваў ня больш 100 працадзён. Гэтыя паказчыкі яшчэ раз падкрэсьліваюць, што хто работае, той і атрымоўвае.

Калгас і па другім галінам ідзе наперадзе.

Плян загатовак калгас выканаў **да дню Кастрычнікавай рэвалюцыі на 100 проц.**

Плян мабілізацыі сродкаў сыстэматычна калгасам з кварталу ў квартал перавыконваецца. Так III квартал датэрмінова выканан на 107 проц. Калгасьнікі абавязаліся перавыканаць і IV квартал не пазьней 20 кастрычніка.

На вопыце калгасу „Чырвоны Лепель" павінны вучыцца ўсе астатнія калгасы Лепельшчыны.

**Б. Чарняўскі.**

# Краязнаўства — на барацьбу за высокі ўраджай

У сваёй пастанове ад 1-га чэрвеня 1932 году СНК БССР падкрэсьліў, што вырашэньні вялізарнейшых задач другой пяцігодкі і паскораньне тэмпаў пабудовы сацыялізму, патрабуюць максымальнага разгортваньня краязнаўчай работы і ўцягненьня ў гэтую работу шырокіх працоўных мас. Некаторымі краязнаўчымі арганізацыямі і паасобнымі краяведамі праведзена і праводзіцца каштоўная для сацыялістычнага будаўніцтва дасьледчая работа.

Краязнаўчая ячэйка пры Рэчыцкім пэдтэхнікуме разгарнула і праводзіць надзвычайна карысную работу, падпарадкаваную непасрэдна задачам нашага будаўніцтва. Гэтая работа заключаецца ў пастаноўцы досьледаў па разьвядзеньні новых сельска-гаспадарчых культур у кліматычных умовах БССР, досьледаў па акультывізаваньні дзікарастучых расьлін, па вырошчваньні больш рэнтабельных гатункаў нашых збожжавых і гародніх культур, пры ўжываньні навейшых дасягненьняў агранамічнай навукі і досьледаў па скарыстаньні крапівы як валакністай расьліны і г. д. Ячэйка мае пры тэхнікуме вопытны вучастак, на якім праводзяцца сталыя досьледы над расьлінамі.

Двухгадовая практыка ячэйкі дала ўжо пэўныя вынікі. Перш за ўсё заслугоўваюць сур'ёзнай увагі праведзеныя досьледы па вырошчваньні соі ў кліматычных умовах Рэчыцкага раёну. Досьледы праводзіліся над 6-ю рознымі гатункамі соі: Крашуля, Амурская чорная, Амурская бурая, Амурская жоўтая, Харбінская і адзін гатунак невядомы, які ўмоўна ячэйка назвала—соя Рэчыцкага пэдтэхнікуму. Пасеў насеньня соі пералічаных гатункаў праводзіўся ў два тэрміны—раньні 7 мая і позьні—22 мая. Першы раз было высеена кожнага гатунку па 9 **гр** на плошчы 2,5 кв. мэтры, а ў другі раз высеяна па 10 **гр** насеньня на такой-жа плошчы.

Даспелі паасобныя гатункі соі раньняга пасеву ў наступныя тэрміны: соя крашуля 20-VIII—ураджай 54 **гр**,—або сам-сем; Амурская чорная—2-IX—ураджай 72 **гр**, сам-восем; Амурская бурая—6-IX—ураджай—33—сам-шэсьць, Амурская жоўтая 4-IX—ураджай 72—сам-восем, Харбінская — 10-IX—ураджай 75—сам-8,3 і соя Рэчыцкага пэдтэхнікуму—17-IX—ураджай 119, сам 14. Соя пазьнейшага засеву ўсіх гатункаў даспела ў пэрыяд з 30 жніўня па 15 верасьня. Ураджай позьняга пасеву даў павялічэньне па такіх гатунках: соя Крашуля — 156 **гр**, або сам 15,6; Амурская чорная—84—сам 9,3, соя Амурская бурая захавала першы ўраджай 33—сам 3,6, а соя Амурская жоўтая дала памяншэньне ўраджаю—54—сам 6, замест ранейшага — 72, сам 9, Харбінская таксама дала паменшаньне — 46—сам 5, замест ранейшых 75—сам 8,3.

Прыведзеныя даныя гавораць аб тым, што больш выгадна праводзіць раньні пасеў такіх гатункаў, як Амурская, Харбінская і соя Рэчыцкага пэдтэхнікуму, а позьні пасеў больш адпавядае для соі Крашулі і Амурскай чорнай. Соя Амурская бурая, як параўнальна мала ўраджайная на зерне, можа быць выкарыстана як сілосная культура, якая мае вялікую колькасьць зялёнае масы.

Заслугоўвае таксама вялікай увагі работа ячэйкі па дасьледваньні вырошчваньня расьліны Сарго, насеньне якой ячэйка сабрала з венікаў, што прадаваліся ў крамах г. Рэчыцы. Насеньне Сарго было пасеяна 13 красавіка на плошчы 1 кв. мэтру. Узышло і вырасла толькі 8 штук, дасягнуўшы 304 **см** вышыні і даўшы ўраджай насеньня 2,9 кілё.

Досьледы па вырошчваньні Клешчавіны—расьліны паўднёвага паходжаньня, з якой здабываецца касторавы алей, патрэбна ў мэдыцыне, таксама паказалі, што гэтая расьліна можа расьці ў нашым клімаце, калі яе высяваць у парніках, а потым як расаду перасаджваць у грунт у першай палове красавіка.

Добра таксама расьце лекавая расьліна „Напярсьцянка", або „Дэгеталіс", якая, апрача лекавых мэт, мае дэкарацыйнае значэньне.



Калгасьнікі калгасу 13-годзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі рыхтуюць чырвоны абоз

Вынікі сваёй работы ячэйка дэманстравала на Рэчыцкай раённай сельска-гаспадарчай выстаўцы ў бягучым годзе, за што атрымала ганаровае пасьведчаньне.

Вялікую каштоўную работу правялі краяведы Тураўскага раёну. Гэтая работа перш за ўсё заключаецца ў складаньні эканамічна - геаграфічнага апісаньня раёну, зробленае краяведам тав. **Бруем** і праведзеная работа другім краяведам тав. **Кернажыцкім** па вывучэньню вопыту культуры цукровых буракоў у Тураўскім раёне.

Пачатак разьвядзеньня цукровых буракоў у Тураўскім раёне адносіцца да 1925 году. Гэтай справай займаліся паасобныя сяляне. Яны сеялі буракі на градках і скарыстоўвалі ўраджай для сваіх уласных патрэб.

У 1928 годзе аграном тав. **Загорны ў** Тураве заклаў вопытны вучастак плошчай у 0,1 **га** на цяжкай гліністай глебе. Ураджай з гэтага вучастку быў 3,2 **цнт**, або 1920 пуд. з **га.** У 1930 г. ім-жа было закладзена два вопытныя вучасткі на суглінку і супяску. Ураджай з першага вучастку атрыманы з 1 **га** 48 **т**, а з другога—21 **т.**

У 1931 г. Тураўскі райкалгассаюз прыступіў да пашырэньня пасеву плошчы цукровымі буракамі ў некаторых калгасах. Усяго было засеяна 12 **га** і сабраны ўраджай да 300 **т** буракоў.

Аналізы цукровых буракоў, зробленыя ў 1929 г. у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, паказалі, што яны зьмяшчаюць у сабе 16,5 проц. цукрыстасьці. Тое-ж самае пацьвердзілася і ў Кіеўскім цукрова-рафінадным заводзе, куды было накіравана 100 **кгр** буракоў, з якіх вышла 16 **кгр** цукру.

Улічваючы вялікае прамысловае значэньне буракоў і адпаведнасьць кліматычных умоў Тураўшчыны для іх культуры, трэба адпаведным нашым цэнтральным установам і арганізацыям улічыць гэта і зрабіць належныя захады да пашырэньня гэтай каштоўнай расьліны, як у Тураўскім, так і другіх паўднёвых раёнах БССР.

Шматгадовыя досьледы краяведа—настаўніка Рагачоўскага пэдтэхнікуму тав. **Руткоўскага** над вырошчваньнем вінаграду, зараз далі ўжо рэальныя вынікі мажлівасьці культуры гэтай каштоўнай спажыўнай расьліны ў паўднёвых раёнах БССР. Далей мы таксама маем весткі, што вінаград ужо расьце ў Слуцку, Мазыры, Глускім раёне і іншых мясцох БССР. Гэта значыць, што насьпеў ужо час аб выкарыстаньні вынікаў досьледаў над культурай вінаграду ў больш пашыраных маштабах.

З другіх краязнаўчых арганізацый, якія правялі карысную работу ў справе дапамогі нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву, неабходна адзначыць Веткаўскае раённае бюро краязнаўства, членам якога, т. **Чайкоўскім**, разам з вучнямі праведзены досьледы і апісаньне месцазнаходжаньня гліны, торфу і жалезнае руды на тэрыторыі Веткаўскага раёну.

Аналёгічная работа ў Асіпавіцкім раёне праведзена настаўнікам-краяведам т. **Немцавым.**

Аднак, ня ўсе яшчэ краязнаўчыя арганізацыі разгарнулі дасьледчую работу. Яна не набыла яшчэ масавага характару.

Бліжэйшая задача краязнаўчых арганізацый — узмацніць і максымальна пашырыць дасьледчую працу, выкарыстаць вопыт лепшых краязнаўчых ячэек.

На дапамогу краязнаўчым арганізацыям павінны прысьці ўсе раённыя арганізацыі і ўстановы, якія ў значнай меры могуць выкарыстаць вынікі краязнаўчай дасьледчай працы ў сацыялістычным будаўніцтве свайго раёну.

Кожная краязнаўчая ячэйка, кожны ў асобку краявед павінны па-сапраўднаму ўключыцца ў барацьбу за высокі ўраджай нашых сацыялістычных палёў, за ажыцьцяўленьне пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб павышэньні ўраджайнасьці.

**Т. Кулакоў,**
**В. Самцэвіч.**



Абоз з ільносемям калгасу імя 13-годзьдзя Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

# Электрычнае сэрца Савецкай Украіны

Пабудова Дняпроўскай гідрастанцыі і плаціны і пуск першых агрэгатаў Дняпроўскай станцыі па пляну, зацьверджаным урадам Саюзу, намячаўся 1 сьнежня 1932 году. Рашэньне гэта было прынята пасьля таго, як кіраўніцтва будаўніцтвам распра-



Плаціна Днепрабуду.

цавала новы плян работ і пабудоў, па якім замест раней вызначаных агрэгатаў па 50 тыс. конскіх сіл, агульнай магутнасьцю ў 650 тыс. конскіх сіл, прапанавалася ўстанавіць больш моцныя турбагенэратары—да 100 тыс. конскіх сіл (пры гранічнай магутнасьці станцыі 800—900 тыс. конскіх сіл). Гэта пацягнула за сабою і рад зьмен у вытворчасьці работ, якія заключаліся ў тым, што было вырашана ажыцьцявіць будаўніцтва ў адзін прыём без падзяленьня на чаргі і бяз ужываньня, так званых часовых, але вельмі дарагіх гідратэхнічных пабудоў. Гэтыя зьмены і палепшаньні давалі ўрэшце эканомію ў 10 млн. рублёў, але патрабавалі некаторага падаўжэньня тэрмінаў будаўніцтва. У 1930 годзе, яшчэ задоўга да сканчэньня работ у катлаванах плаціны, у час выязднай сэсіі УЦВК на Днепрабудзе, будаўнікамі быў высунут сустрэчны плян—пусьціць першыя агрэгаты 1 мая 1932 году.

Дняпроўскае будаўніцтва з гонарам выканала гэтае надзвычай цяжкае заданьне і першага мая а 6 гадзіне 30 хв. агрэгат Днепрадрэс магутнасьцю ў 90 тыс. конскіх сіл даў першы прамысловы ток. З гэтага дня Дняпроўская гідрастанцыя бесьперабойна снабжае электраэнэргіяй сваіх спажыўцоў—Днепрапятроўск, Запарожжа, Кічкас.

Да 1 мая 1932 году ня былі скончаны ўсе аддзелачныя і ўборачныя работы на гідрастанцыі і плаціне, як была гатова лінія перадачы на Днепрапятроўск, таму вырашылі адкласьці афіцыйны пуск і адкрыцьцё Днепрадрэс. Урадам прынята рашэньне лічыць датай афіцыйнага пуску гідрастанцыі—10 кастрычніка.

На гідрастанцыі зараз змантыраваны і выпрабаваны электрычным напруджаньнем і зданы ў эксплёатацыю ўсе пяць агрэгатаў. Працягваецца плянавы мантаж наступных чатырох турбін і можа быць приступлена да зборкі шостага генэратара, які, як вядома, вырабляецца на заводзе „Электрасіла“ ў Ленінградзе. Поўнасьцю ўстаноўлены ўсе павышальныя трансфарматары і закончана ўся праводка ад трансфарматараў да павышальнай станцыі. Пабудован і поўнасьцю абсталяван будынак шчыта кіраўніцтва і ўкладзены сотні кілёмэтраў кантрольных кабеляў да шмат якіх электраапаратаў устаноўкі. На беразе Дняпра, побач з гідрастанцыяй пабудавана і ў межах шасьці машын поўнасьцю абсталявана адкрытая высокавольтная падстанцыя.

Буйнейшая ў сьвеце плаціна ў частцы будаўнічых работ зусім скончана. Зараз працягваюцца работы па ўстаноўцы плацінных мастоў (шасэйнага і службовага) і мосту праз аванкамеру.

Першыя вынікі работы гідрастанцыі сьведчаць аб выключна пасьпяховай рабоце гіганцкіх агрэгатаў і такой буйнай пабудовы, якой зьяўляецца Дняпроўская станцыя. Агрэгат за агрэгатам праходзілі спробы і здаваліся ў эксплёатацыю без якіх-небудзь затрымак. Гэта сьведчыць у першую чаргу аб высокай якасьці мантажа турбін, генэра-



Мітынг перад пускам Днепрабуду.

тараў і ўсяго электрычнага абсталяваньня. Мантаж агрэгатаў быў забясьпечан невялікай колькасьцю замежных манцёраў, і вельмі разнастайныя мантажныя работы ўтвараліся нашым пэрсаналам. Гэтыя кадры, створаныя ў працэсе мантажных работ, зьяўляюцца буйнай заваёвай Днепрабуду.



Рабочы пасёлак у новым Запарожжы.

Кадры для гідрастанцыі былі намі сфармаваны і падрыхтаваны з мантажнага пэрсаналу і часткова з работнікаў часовай цеплавой электрастанцыі. Створаныя пры электрамэханічным аддзеле Днепрабуду курсы, таксама падрыхтавалі рад работнікаў. Толькі для эксплёатацыі лініі перадачы і дыспэтчэрскай службы нам давялося запрасіць з боку некалькі вопытных работнікаў.

Дняпроўскае будаўніцтва ажыцьцяўлялася пры ўдзеле двух кансультацый—амэрыканскай і нямецкай. Нямецкая кансультацыя была часовай, яна была запрошана для таго, каб дапамагчы сабраць матар'ял для выбару будаўнічага абсталяваньня і выяўленьня спосабаў вытворчасьці работ. Амэрыканская кансультацыя была сталай і бязумоўна адыграла становучую ролю.

Побач з пасьпяховай пабудовай Днепрадрэс мы ня можам адзначыць такога-ж становішча на вучастку выкарыстаньня самай таннай у сьвеце электраэнэргіі. Будаўніцтва заводаў Дняпроўскага прамысловага камбінату ажыцьцяўляецца недастаткова шпаркімі тэмпамі.

Перамогі, атрыманыя ў барацьбе за пабудову Днепрадрэс і плаціны, непарыўна зьвязаны з вялізарнай работай партыйнай і прафсаюзнай арганізацыі будаўніцтва. Днепрабуд вырасьціў і выхаваў тысячы новых рабочых, далучыў іх да актыўнага, палітычнага і грамадзкага жыцьця, выкаваў з іх ударнікаў-энтузіястаў сацыялістычнай будоўлі.

Лепшая ў сьвеце гідрастанцыя з найвялікшай плацінай пабудаваны. Забілася электрычнае сэрца Савецкай Украіны. За Днепрабудам мы приступаем да будаўніцтва рада гідрастанцый і плацін на Волзе. Закладзеныя ў дзесятую гадавіну Кастрычніка гіганцкія пабудовы на Дняпры скончаны. Пралетары Днепрабуду рапартуюць партыі і ўраду аб сваёй перамозе, аб гатоўнасьці змагацца і ў далейшым за электрыфікацыю СССР.

## Электраплуг на калгасных палёх

У калгасе „Бабурка“, у раёне Днепрабуду пачалося зяблівае ворыва электрычным плугам. Электраворыва вядзе вопытная станцыя па электрыфікацыі сельскай гаспадаркі на высьпе Хорціца.

Па дагавору з калгасам станцыя павінна ўзараць 400 **га**. Зьяўленьне электраплуга на калгасных палёх выклікала захапленьне калгасьнікаў — факт электра-ворыва мабілізуе калгасьнікаў. Вытворчасьць плуга ў гадзіну—1 **га**. Якасьць ворыва,—па аднадушным прызнаньні калгасьнікаў і аграномаў—высокая. Сабекаштоўнасьць энэргіі 2 руб. 40 кап. на кожны **га** зааранай зямлі—гэта пры часовай цане ў 4 кап. кілёват-гадзіна.

Работнікі вопытнай станцыі прыстасавалі да электрычнага плуга таксама бораны. Такім чынам, пры дапамозе электраэнэргіі Дняпроўскай станцыяй праводзіцца ворыва і баранаваньне.

Пасьля скончаньня работ на палёх калгасу „Бабурка“—вопытная станцыя мае на ўвазе перакінуць электра-плуг у саўгас на высьпе Хорціца, які забясьпечвае прадуктамі рабочых Днепрабуду, Днепракамбінату і гораду Запарожжа.

## Селькор, што ты зрабіў па распаўсюджваньні часопісі „Шляхі Калектывізацыі“?

# Кожную галаву стада—абкружыць руплівым доглядам і клопатам

## На аснове рэалізацыі 6 умоў т. Сталіна дабіліся перамог

*(Лепельскі раён)*

У справе вырашэньня мясной праблемы сьвінафэрма адыгрывае выключнае значэньне. Гэта добра зразумела брыгада сьвінаводаў калгасу „Шлях Сацыялізму“, Кашчынскага сельсавету, Лепельскага раёну.

На аснове правільнай арганізацыі працы, разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, рэалізацыі 6 гістарычных умоў тав. Сталіна, СТКФ дабілася значных дасягненьняў. Адыход маладняку зьведзены да мінімуму.

Фэрма калгасу „Шлях Сацыялізму“ мае пагалоўя 184 штукі.

Усё стада сьвіней даглядае 7 сьвінароў калгасьнікаў на чале з старэйшым брыгадзірам Баранавай Параскай.

Брыгада за добры ўход за сьвіньнямі прэміявана.

Старэйшы брыгадзір тав. Баранава Параска за верасень месяц выпрацавала 59,19 працадзён, а малодшыя сьвінары выпрацавалі па 37,22 працадні ў той час, як у другой брыгадзе па доглядзе за сьвіньнямі сьвінары выпрацавалі ўсяго толькі па 16—17 працадзён.

Раённым штабам старэйшая сьвінарка Баранава прадстаўлена для прэміяваньня ва Усебеларускі штаб як лепшая ўдарніца па доглядзе і арганізацыі працы на фэрме, яе брыгада дабілася 100 пр. выкананьня пляну злучнай кампаніі, захаваньне маладняку на 97 проц.

Плян здачы таварнай прадукцыі перавыканан. За апошнія кварталы трэба было здаць 16 цэнтнераў, здадзена 33,8 цэнтнера.

Фэрма сваячасова распачала падрыхтоўку да зімоўкі. Праводзіцца ўцяпленьне сьвінарнікаў.

Калгасныя фэрмы Лепельшчыны павінны ўзяць прыклад з пастаноўкі і арганізацыі работы сьвінатаварнай фэрмы калгасу „Шлях Сацыялізму“.

**Захар П.**

## Паказчыкі перамог калгасу імя „Карла Маркса“

*(Магілеўскі раён)*

МТФ калгасу „Карла Маркса“ Дабрасьневіцкага сельсавету, Магілеўскага раёну арганізавалася ў мінулым годзе. З пачатку на МТФ было ўсяго 7 кароў; у сёлетнім годзе 32 каровы, 21 цялят, 2 быкі і 2 падцёлкі, што складае 57 шт. пагалоўя.

Гэтыя дасягненьні тлумачацца тым, што калгас правільна арганізаваў работу, работнікі фэрмы па сапраўднаму змагаліся за ўмацаваньне фэрмы.

Для ўмацаваньня кармавой базы ў калгасе было дастаткова засіласавана кармоў з бульбоўніку, сланечніку, атавы і канюшыны. Праводзіцца работа па сваечасоваму кармленьню і строгага трыманьня дадзеных норм, што дало рэальныя вынікі ў рацыяналізацыі і захаваньні кармоў.

У хлявох таксама была зроблена поўная „рэвалюцыя“. Хлявы сваечасова вычышчаліся, на зіму былі шчыльна абіты саломай. Сваечасова праводзілася падсьцілка, была зроблена вэнтыляцыя і доступ сьвятла.

Брыгадзір фэрмы т. Ф. Сьляпцоў добра ўцяміў значэньне сваечасовага і пільнага догляду кароў.

Ня менш важнае пытаньне ўзьнялі работнікі фэрмы узьняць удой кожнай каровы і гэтым самым забясьпечыць бесьперабойнае снабжэньне пралетарскіх цэнтраў малаком і маслам. У гэтай справе таксама была атрымана вялікая перамога.

У лістападзе мы надаівалі ад аднэй каровы 2 літры малака ў дзен, у сьнежні 3, у студзені 3,5, у лютым 4, у сакавіку 4,5, у маі 5.5 і ў чэрвені і ліпені 6 літраў.

Каб падняць зацікаўленасьць у работнікаў фэрмы да павялічэньня ўдою мы ўвялі ў аплаце працы работнікаў зьдзельшчыну.

Ажыцьцяўляючы 6 умоў тав. Сталіна ў працы, МТФ ліквідавала абязьлічку, прымацавала да кожнай даяркі кароў, разгарнула паміж імі сацыялістычнае спаборніцтва на лепшы догляд кароў і павялічэньне ўдою.

МТФ калгасу „Карла Маркса“ зьяўляецца аднэй з лепшых фэрм у раёне, за перавыкананьне плянаў здачы малака (здадзена 16.745 літраў замест пляну ў 14.850 літраў) прэміявана магілеўскім Райза.

На раду з барацьбой за паляпшэньне догляду і падняцьце ўдою малака вялася барацьба за павялічэньне стада. У калгасе праведзена 100 проц. злучка кароў з добрымі завадзкімі вытворцамі.

Якасьць выгадаванага маладняку вельмі добрая. Процант адыходу зьнізіўся да мінімуму. З 29 ацёлаў загінула толькі двое.

Іншыя калгасныя МТФ павінны ўзяць прыклад з МТФ калгасу „Карла Маркса“.

**С. Парфіяновіч**

## Зіму сустрэць падрыхтаваным!

*(Слуцкі раён)*

Наш раён зьяўляецца сьвінагадоўчым раёнам. У гэтым годзе павінна быць пастаўлена 4 тыс. сьвінаматак з агульным пагалоўем 10 тысяч сьвіней.

Зараз абвешчан месячнік агляду СТФ па падрыхтоўцы да зімы. Задача месячніка — выявіць усе недахопы ў падрыхтоўцы да зімы. Лепшы вопыт падрыхтоўкі перанесьці ва ўсе калгасы і СТФ, не паўтараць мінулагодніх памылак, калі ў радзе калгасаў сьвіньні стаялі ў халодных памяшканьнях, не прыстасаваных да зімоўкі, і ня было кармоў.

Зараз галоўная ўвага павінна быць зьвернута на барацьбу за добрую падрыхтоўку да зімовага стойліва, за поўнае выкананьне пляну будаўніцтва сьвінарнікаў.

Есьць калгасы і СТФ, якія добра зразумелі задачы месячніка і па-ўдарнаму рыхтуюцца да зімовага ўтрыманьня сьвіней. Калгас „Рэвалюцыя“, Дарасінскага сельсавету, нядаўна закончыў плянавае будаўніцтва новага сьвінарніка на 100 галоў. СТФ калгасу „Чырвоны бор“, Сарагоўскага сельсавету, таксама добра рыхтуецца да зімоўкі сьвіней. Калгас закончыў пабудову новага сьвінарніка. СТФ калгасу „Случ“ № 2, Ісерскага сельсавету, заканчвае рамонт сьвінарніка і ацяпленьне яго.

Разам з передавікамі СТФ і калгасаў, якія ўдарна рыхтуюцца да зімовага ўтрыманьня сьвіней, ёсьць цэлы шэраг калгасаў, як „Чырвоны сьцяг“ Казловіцкага сельсавету, „Праўда“, Беліцкага сельсавету, „Вална“, Сарагоўскага сельсавету, „Будаўнік“ В. Сьліўскага сельсавету, якія па апартуністычнаму адносяцца да гэтай важнейшай справы і зрываюць будаўніцтва сьвінарнікаў.

Важнейшае месца ў разьвіцьці сьвінагадоўлі займае кармовая база. Мінулагодняя памылкі, калі ў радзе СТФ узімку ня было чым карміць,—павінны быць зьнішчаны. Прычыны памылак у тым, што ў пачатку году ня была складзена кармовая база і кармы ня былі аддадзены пад распараджэньне загадчыкаў СТФ і ўвосень кармы нерацыянальна скарыстоўваліся.

Мінулагоднія памылкі мы павінны цяпер улічыць і іх не паўтараць.

Работа па стварэньні кармовай базы ідзе нездавальняюча. Рад калгасаў зрываюць складаньне кармовага балянсу, як калгас „Чырвоны маяк“, Серажскага сельсавету, у якім праўленьне калгасу ігнаруе складаньне кармовай базы. Старшыня калгасу т. Пунчык кажа: „На ліха нам яшчэ складаць базу, сьвіньням і так добра будзе“.

Ёсьць калгасы, якія па-бальшавіцку ўзяліся за складаньне кармовай базы. Напрыклад, калгасы „Камбайн“, „Случ“ № 2 і шэраг іншых СТКФ. Па прыкладу передавых усім калгасам і СТФ патрэбна скласьці кармовую базу зараз-жа.

Зьвязаць работу па падрыхтоўцы памяшканьняў да зімы з складаньнем кармовай базы.

Жорстка ўдарыць па разважаньнях, накшталт старшыні калгасу „Чырвоны маяк“ т. Пунчыка, зрыўшчыкаў падрыхтоўкі да зімы прыцягнуць да адказнасьці.

Усе астатнія калгасы, СТФ павінны раўняцца па передавікох падрыхтоўкі да зімы, як калгас „Рэвалюцыя“, „Камбайн“, „Случ“ № 2 і „Чырвоны Бор“.

**Янка Кучур.**

## Канвэер безгаспадарчасьці ў сьвінагадоўчым цэху

*(Чавускі раён)*

Дырэкцыя сьвінагадоўчага саўгасу „Ялава“ не надае належнай увагі паляпшэньню догляду сьвіней, што зьяўляецца зрывам выкананьня колькасных і якасных паказчыкаў прамфінпляну па сьвінагадоўчым цэху.

Вынікі такіх адносін да сьвіньні зусім відавочны. З агульнага пагалоўя 1.253 сьвіней на 30 жніўня 1932 г. за верасень месяц пала 118 штук парасят і прырэзана 32 сьвіньні старэй 8 месяцаў.

Такі вялікі адыход парасят і дарослых матак тлумачыцца тым, што на фэрме пануе абязьлічка і безадказнасьць у працы працаўнікоў сьвінафэрмы.

Кіраўніцтва з боку зоовэтпэрсанала праводзіцца фармальна. Кепская наладжанасьць арганізацыі вытворчасьці і арганізацыі працы зьяўляецца асноўнымі карэньнямі такіх ганебных паказчыкаў работы сьвінагадоўчага цэху саўгаса „Ялава“.

Утрыманьне сьвіней на пашы зьяўляецца вельмі спрыяючай умовай для здароўя сьвіней, асабліва для вырашчваньня маладняку. На пашы сьвіньні даюць прырост на 30—40 проц. больш, чым тыя сьвіньні, якія знаходзяцца на стойлавым утрыманьні, у адзін і той-жа час.

Аднак, ня гледзячы на пераважнасьць утрыманьня сьвіньней на пашы зоовэтпэрсанал саўгасу „Ялава“ знайшоў „рацыянальным“ трымаць улетку сьвіней цэлымі днямі ў сьвінарніках, апраўдваючы такое становішча тым, што няма каму пасьвіць.

У сьвінарніках шмат гразі, жыжаісточнікі загрязьнены. Вакол сьвінарнікаў шмат гною. Такое становішча сьвінарнікаў знаходзіцца на вачох вэтурача, 2-я вэтфэльчароў, санітараў, зоотэхніка, тэхніка заг. фэрмы і г. д.

Дзякуючы такому антысанітарнаму становішчу сьвінарнікаў сьвіньні хварэюць. У саўгасе самы „унівэрсальны“ мэтад лячэньня сьвіней—гэта прырэзка. Прырэзка робіцца ля варот сьвінарніка, дзе зарэзаны парасёнак ляжыць доўгі час і здаровыя парасяты п'юць кроў. Адгэтуль па форме хваробы безгаспадарчасьці, падзёж, бруд. Пры ўваходзе няма нават дызэнфэкцыйных скрынак, на сьвінарнікі і ізалятар ходзяць усе—хто толькі жадае.

Бюро „Бриз“, якое існуе пры саўгасе, зусім не працуе; апартуністычныя адносіны да працы па вынаходзтву і рацыяналізацыі з боку кіраўніка „Бриз“, т. Калесьнікава, зусім недапушчальнае.

Унядрэньне мэханізацыі ў працэсы кормаздабываньня ідзе вельмі маруднымі тэмпамі. У той час, калі жмыхадрабілку і корнярэзку магчыма было даўно ўжо прыстасаваць да трактара, толькі гэтымі днямі пасьля доўгіх разважаньняў узяліся, каб наладзіць гэту справу.

Работа па падрыхтоўцы кадраў на высоўваньне лепшых сьвінарэй на пасаду брыгадзіраў і г. д. не праводзіцца.

Выяўленьне лепшага вопыту работы ударнікаў ў саўгасе адсутнічае. Насьценгазэта дагэтуль адсутнічала, толькі зараз гэта справа пачала наладжвацца. Бытавыя ўмовы сьвінароў кепскія.

Для ліквідацыі ўсіх недахопаў саўгас павінен рашуча ўзяцца за перабудову работы па новаму на аснове 6-ці ўмоў т. Сталіна.

**Старобінец.**

# Культуру тапінамбура—на сацыялістычныя палі

Тапінамбур ці земляная груша, або, як яе завуць у Беларусі, дзікая бульба, вельмі карысная расьліна. У БССР, дзе жывёлагадоўля займае галоўнейшае месца ў сельскай гаспадарцы, культура тапінамбуру мае вялікае значэньне.

Тапінамбур скарыстоўваецца для розных мэт: для сіласаваньня, для пашы, клубні ідуць на корм жывёле і спажываньне людзям; тапінамбур скарыстоўваюць для вырабу цукру, сьпірту і гумы. У Заходняй Эўропе даўно ўжо культывіруюць тапінамбур і там ён вядомы ня менш як бульба. Так, напрыклад, у Францыі ён займае 5,2 проц. ад усёй воранай плошчы, а бульбай занята 6,8 проц. У нас-жа тапінамбур зьяўляецца новай культурай, але якой належыць вялікая будучыня і якая павінна хутка заваяваць свае правы. Наркамзем БССР намеціў у 1933 годзе засадзіць тапінамбурам ня менш 700 **га** і штогод плошча пад ім будзе ўзрастаць.

**Якую карысьць дае тапінамбур?**

Тапінамбур зьяўляецца вельмі добрым выпасам для сьвіней. Сьвіньні яго паядаюць вельмі ахвотна. Паядаецца зялёная маса і клубні. Такая паша не патрабуе ніякіх затрат, патрэбна толькі адзін раз пасадзіць клубні і тады сьвіньні могуць пасьвіцца некалькі год з раньняй вясны да позьняй восені. Тапінамбур таксама добры зялёны корм для трусоў на працягу ўсяго лета і восені.

Тапінамбур зьяўляецца вельмі добрай расьлінай для сіласаваньня, ён дае вялікую зялёную масу—ад 300 да 500 **цнт з га**, сена дае да 150 **цнт.** Па кармавой якасьці тапінамбур стаіць вышэй за інш. культуры. Калі параўнаць некаторыя кармы, то атрымаем наступны малюнак: у 100 кілё бацьвіньня кармавых буракоў маецца 5,3 крахмальных эквівалентаў, у бацьвіньні бульбяніку—7,2 эквівалента, чырвонай канюшыне—10,2, а бацьвіньне тапінамбуру на кожныя 100 кілё мае 16,2 крахмальных эквів. Бацьвіньне кармавых буракоў мае 1 проц. ператраўнага бялку, бацьвіньне бульбяніку—толькі 0,6, віка ў цьвіценьні—1,4, а тапінамбур мае 1,7 проц. ператраўнага бялку.

Клубні тапінамбуру—добры корм для жывёлы. Ураджай клубняў бывае больш за ўраджай клубняў бульбы, ураджай клубняў тапінамбуру ад 150 да 300 **цнт з га.** Але ў нас у тых мясцох, дзе растуць кусты адзічэлага тапінамбуру, ураджай клубняў меншы. У 1931 годзе атрыманы наступныя ўраджаі клубняў тапінамбуру ў насельніках калгасаў Маскоўскай вобласьці з 1 **га:** калгас „Іскра“ атрымаў 90 **цнт**, „Барэц за сацыялізм“—160 **цнт**, а „Чырвоны пралетар“—600 **цнт.**

Клубні тапінамбуру скармліваюцца ўсімі відамі жывёлы. Самы лепшы ўплыў клубні тапінамбуру аказваюць на сьвіней. Таму сьвінагадоўчыя саўгасы і калгасы павінны ў першую чаргу засяваць тапінамбур. Пры стойлавым адкорме, сьвіньням даюць параныя ці сырыя клубні па 4—5 кілё ўдзень, пачынаючы з 1—2 кілё. Лепш за ўсё ўтвараць адкорм сьвіней пашавым парадкам, пры якім клубні выбіраюцца непасрэдна сьвіньнямі з зямлі. Такім чынам непатрэбна будзе іх выбіраць і траціць час і рабочую сілу.

Каровам даюць ня больш 8—10 кілё клубняў тапінамбуру ў дзень, а лепш усяго для кароў даваць клубні тапінамбуру ў рацыёне, у мешанцы з інш. кармамі, напрыклад, кармавымі буракамі. Добра адкармліваць клубнямі тапінамбуру быкоў і бараноў. Можна скармліваць вараныя клубні тапінамбуру птушкам. Пры кармленьні клубнямі тапінамбуру жывёлы патрэбна ў кармавы рацыён уключаць тапінамбур патроху, паступова прывучаючы да гэтага жывёлу.

Клубні тапінамбура можна скармліваць з вялікім эфэктам ня толькі ўвосень ці зімой, а нават вясной, бо клубні тапінамбура добра перазімоўваюць у зямлі нявыкапанымі і вясной зьяўляюцца спажыўным, сакавітым кормам.

Да кліматычных і глебавых умоў тапінамбур вельмі нятрэбавацельны, ён сустракаецца ў розных частках СССР. У БССР можна сустрэць гэтую расьліну ў шмат якіх раёнах—Менскім, Рагачоўскім, Быхаўскім, Пухавіцкім, Гомельскім, Петрыкаўскім і іншых. Тапінамбур вельмі сухаўстойлівы і ўстойлівы да замаразкаў. Ён можа культывіравацца ў любым раёне БССР. Тапінамбур расьце нават на такіх супясках і суглінках, на якіх бульба дае дрэнныя ўраджаі або зусім не расьце. Вядома на лепшай глебе атрымліваюцца і больш высокія ўраджаі тапінамбура. Глебы прыгодныя для бульбы будуць вельмі добрымі для тапінамбуру. Толькі балоцістыя, вельмі вільготныя глебы нягодны для гэтай расьліны.

Вось чаму тапінамбур, дзякуючы сваёй моцнай кармавой сыстэме, дабывае спажыўныя матэрыі з тых глеб, з якіх іншыя расьліны ня могуць дабыць. Але трэба памятаць, што тапінамбур у севазварот уносіць ня трэба. Тапінамбур, акрамя буйных і сярэдніх клубняў, мае яшчэ шмат дробных клубняў і пры ўборцы ўраджаю немагчыма выбраць з глебы поўнасцю ўсе яго клубні. Культура тапінамбура шматгадовая, ён расьце на адным месцы шмат гадоў. Былі выпадкі, калі яна расла на адным і тым-жа месцы 40 гадоў і больш. Калі ўвесьці тапінамбур у севазварот, то ён забівае ўсе наступныя культуры, не дае магчымасьці ім разьвівацца, і змаганьне з ім патрабуе ўпартай працы і часьцей усяго не дае належных вынікаў. Нават, калі тапінамбур скарыстоўваецца для выпасу сьвіней, калі сьвіньні выбіраюць старанна яго з глебы, усёроўна дробныя клубні застаюцца і ўвесну наступнага году ён зноў разьвіваецца на гэтым самым месцы. Вось чаму тапінамбур ня трэба ўводзіць у севазварот, а адводзіць для яго асобныя вучасткі, на якіх ён будзе расьці некалькі год.

Тапінамбур мае вялікую жыцьцяздольнасьць і трываласьць. Аднак добра аплачвае за паляпшэньне ўмоў яго вырасьліваньня і праяўляе вялікую чуласьць на агратэхніку, чым іншыя культуры. Калі зусім ня ўжываць агратэхніку ў адносінах культуры тапінамбуру, то паступова ўраджаі яго зьмяншаюцца, ён дзічэе і драбнее.

Таму глебу трэба падрыхтоўваць як пад бульбу—глыбокае ўзворваньне на 20—30 **см.** Пачынаць лепш апрацоўку з восені. Садзіць тапінамбур увосень

і вясной. На цяжкіх глебах, дзе застойваецца вода, або ў нечарназёмнай паласе ва ўмовах вельмі дажджлівай восені лепш садзіць тапінамбур вясной, бо пасаджаныя ўвосень клубні ў такіх умовах могуць загніваць. Пры веснавой пасадцы тапінамбур патрэбна садзіць як мага раней. Садзіць трэба радамі ў напрамку з поўначы на поўдзень, што дасьць магчымасьць лепш выкарыстаць сьвятло і цяплыню расьлінамі. Адлегласьць між радамі—70—90 **см**, а адлегласьць у радах паміж клубнямі 40—70 **см**. Гушчыня залежыць ад кліматычных умоў і мэты расьліны. На поўначы садзяць гусьцей, а на поўдні—радзей, тапінамбур на насеньне садзяць таксама радзей. Глыбіня заворваньня таксама ў залежнасьці ад глебавых умоў. На лёгкіх глебах—да 10 **см**, на сярэдніх глебах—7-8 **см**, а на цяжкіх 5-6 **см**. Практыку пасадкі бульбы можна цалкам перанесьці на тапінамбур.

Пры наглядаваньнях вопытных станцый выяўляецца, што ад унясеньня мінэральных угнаеньняў пад тапінамбур, павышаецца галоўным чынам ураджай клубняў. На зялёную масу мінэральныя ўгнаеньні робяць невялікі ўплыў. Гной пад тапінамбур уносіцца перад першым узорваньнем.

Пасадку тапінамбуру робяць клубнямі або парасткамі. Клубні садзяцца цэлымі або рэжуцца на часткі. Пасадачнага матар'ялу патрэбна ад 10 да 15 **цнт** на **га**. Пасадка, як ужо ўказывалася, робіцца так, як і бульбы. Можна садзіць пад плуг і пры вялікіх плошчах засеву—скарыстоўваць бульбасаджалку.

Догляд за пасаджаным тапінамбурам выражаецца ў праполцы міжрадзьдзяў. Праполка пустазельля робіцца ўручную або планетам, у той час, калі кусты тапінамбуру яшчэ не замацаваліся. Далей, калі расьліна тапінамбура разрасьцецца, яна глушыць усё пустазельле і тады ніякай праполкі ўжо рабіць ня трэба.

Пасьля таго, калі расьліна тапінамбуру дасягае вышыні 25—30 **см** трэба зрабіць акучваньне. Гэтым ствараюцца лепшыя глебавыя ўмовы для разьвіцьця расьліны і атрымліваюцца вялікія ўраджаі клубняў.

У той час, калі шмат якія расьліны апаноўваюцца тымі ці іншымі шкоднікамі і грыбнымі хваробамі, тапінамбур амаль што ня мае шкоднікаў і даволі рэдка паддаецца грыбным хваробам. З шкоднікаў могуць нанесьці некаторую шкоду лічынкі хрушча і мядзьведкі і вусень палявой соўкі. Замест пашкоджанага імі куста адрастае новы адростак. З грыбных хвароб пашкоджвае тапінамбур іржавіна сланэчніка, паражаючы лісьце яго, што можа ў сваю чаргу зьменшыць ураджай клубняў. Прыметы гэтае хваробы: зьяўленьне на ніжнім баку ліста драбных іржава-чырвоных плям. Гэтыя плямы напамінаюць падушачкі, у якіх знаходзяцца споры грыбка, і па меры пасьпяваньня колер плям зьмяняецца на цёмнабуры. Пасьпеўшыя споры разносяцца ветрам, пераносяцца на іншыя расьліны і заражаюць іх. Ад гэтай іржавіны сьцяблы і лісты чарнеюць і засыхаюць. Хворыя расьліны патрэбна скасіць і спаліць. Пры значным захворваньні іржавінай лепш спаліць бацьвіньне.

Для папярэджаньня разьнясеньня іржавіны сланэчніка, калі зьвяцца першыя прыметы захворваньня пасеву тапінамбуру, можна спырсківаць кожныя 2 тыдні бордоскай вадкасьцю, якая прыгатаўляецца з 100 грамаў медзянага купаросу і 100 грамаў вады.

Усе гэтыя шкоднікі і хваробы зьяўляюцца на тапінамбуры вельмі рэдка, бо яны мала распаўсюджаны, а культура тапінамбуру досыць трывалая.

Больш пагражае клубням тапінамбуру звычайная гніль, з якой можна сустрэцца пры захаваньні. Для захаваньня клубняў ад захворваньня гнільлю, трэба тапінамбур перабраць і аддзяліць хворыя ад здаровых. Бацьвіньне тапінамбуру ўбіраецца ў залежнасьці ад жаданьня гаспадаркі скарыстаць тапінамбур для той ці іншай мэты. Гэта значыць, калі гаспадарка жадае атрымаць як мага больш зялёнае масы, а клубнямі зацікаўлена менш, то бацьвіньне, якое хутка адрастае, можна скошваць 2 разы і ў гэтым выпадку дасьць найвялікшую колькасьць зялёнай масы. Першы ўкос робіцца ў чэрвені месяцы, або ў пачатку ліпеня, а другі—у кастрычніку. У тых выпадках, калі пажадана, акрамя зялёнай масы, атрымаць больш клубняў тапінамбуру, трэба рабіць толькі адзін укос і рабіць яго пазьней восеньню, прыблізна ў кастрычніку месяцы.

Уборка бацьвіньня тапінамбуру робіцца таксама, як і сланэчніка—сярпом, касой ці жняяркай. Сушка ўтвараецца разьмяшчэньнем на вешалках, або ў невялікіх пучках 25—30 **см** таўшчынёй. Гэтыя пучкі складаюцца ў выглядзе піраміды. Калі пучкі высахнуць, іх патрэбна зьвязаць у невялікія снапы, каб быў доступ паветра. Пры скармліваньні такога сена лепш усяго прапусьціць яго праз сячкарню і тады ўжо даваць жывёле.

Самы лепшы спосаб скарыстаньня зялёнага бацьвіньня тапінамбуру—гэта сіласаваньне. Працэс сіласаваньня зялёнай масы нічым не адрозьніваецца ад сіласаваньня зялёнай масы сланэчніка.

Клубні тапінамбуру ўбіраюцца зараз-жа пасьля ўборкі бацьвіньня. Уборка ўтвараецца таксама, як бульбы. Выкапываецца рыдлёўкамі, убіраецца пад плуг, а на вялікіх плошчах уборку магчыма будзе мэханізаваць, прымяняючы бульбакапалкі. Уборка тапінамбуру вытвараецца як увосень так і вясною. Лепш убіраць клубні вясной, бо тады яны маюць больш цукру і набываюць салодкі смак, таму і жывёла лепш паядае. Акрамя таго, клубні тапінамбура, выбраныя з зямлі, кепска пераносяць хаваньне. Пакладзеныя ў склеп вельмі ссыхаюцца і трацяць на працэсы дыханьня частку цукру. Да вясны яны страчваюць да 20 проц.

Такім чынам тапінамбур, або зямляная груша зьяўляецца вельмі каштоўнай і карыснай культурай. Яна павінна атрымаць у нас шырокае распаўсюджваньне і адыграць вялікую ролю ў стварэньні моцнай кармовай базы для пасьпяховага разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

У гэтым годзе мы маем яшчэ невялікую плошчу пад тапінамбурам. Патрэбна мабілізаваць усю грамадзкасьць, камсамол, піянэраў, школьнікаў на вышуканьне насеньня гэтай культуры і прасоўваньне яе на сацыялістычныя палі.

**Н. Бойка.**

# Супроць апартуністычнай блытаніны ў пытаньнях спэцыялізацыі сацыялістычнага земляробства

*(Працяг. Гл. у № 20—21 „Ш. К.“).*

Плянавае кіраўніцтва пры правядзеньні спэцыялізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці ў першую чаргу павінна выходзіць з патрэбнасьцяй сацыялістычнай народнагаспадарчай вытворчасьці ў цэлым. Пры гэтым плянавае кіраўніцтва павінна ня проста забясьпечыць максымальнае пашыраньне вытворчасьці ўсіх відаў прадукцыі ў склаўшыхся дагэтуль іх суадносінах, а ў першую чаргу вызначыць такія зрухі ў аднаўленьні, якія найлепшым чынам забясьпечылі-б шпаркія тэмпы росту сыравіннай базы прамысловасьці і рост спажываньня шырокіх мас.

У літаратуры і ў практычнай рабоце па спэцыялізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці вельмі часта сустракаецца нежаданьне лічыцца з канкрэтнымі данымі, абумоўліваючымі тэмпы спэцыялізацыі і ступень яе правядзеньня на даным этапе. Пры гэтым часьцей за ўсё ігнаруюцца сацыяльна-эканамічныя моманты, абумоўліваючыя магчымасьць і неабходнасьць той ці іншай формы спэцыялізацыі таго ці іншага сельска-гаспадарчага прадпрыемства.

Недаацэнка асаблівасьцяй сацыялістычнага тыпу гаспадаркі, імкненьне пераскочыць праз неабходныя этапы разьвіцьця характарны для „лева“-апартуністычнай тэорыі і практыкі калгаснага будаўніцтва. Нагляд аюцца выпадкі, калі ад калгаса ў адміністрацыйным парадку адбіраюць абагуленую малочную жывёлу толькі таму, што гэты калгас „далей павінен спэцыялізавацца“ на другой галіне вытворчасьці. Гэтая жывёла пераганяецца за дзесяткі кілёмэтраў у другі калгас для стварэньня спэцыялізаванай фэрмы-гіганта. У некаторых раёнах значнае распаўсюджаньне мае ільнаводзтва, не завозяць маючыхся на складах сельгасснабжэньня ільнамялак толькі таму, што гэтыя раёны лічацца жывёлагадоўчымі. Зернавым калгасам часта адмаўляюць у снабжэньні насеньнем кармовых культур і адпаведным інвэнтаром для іх апрацоўкі на той падставе, што гэта супярэчыць іх спэцыялізацыі. Часам зусім беспадстаўна забараняюць калгасам сеяць тыя ці іншыя спажывецкія культуры, ня гледзячы на выкананьне пляну пасеву таварных культур.

На гэтай-жа „тэарэтычнай базе“ часта асноўваецца апартуністычная практыка, якая сустракаецца і ў загатоўчых органах на мясцох, якая абмяжоўвалася загатоўкамі толькі ў гаспадарках і раёнах, спэцыялізуючых сваю вытворчасьць, не жадаючы разгарнуць гэтыя загатоўкі там, дзе гэты прадукт зьяўляецца для вытворчасьці другарадным.

Часам работнікі кіруючых і плянуючых органаў у асобных раёнах ставяць прамой задачай у поўнай адпаведнасьці з фармуліроўкай Ф. А. Харобрых—„ва што-б там ні стала і ў найкарацейшы тэрмін“ вызваліцца ад „другарадных“ галін і культур у сваім раёне і тым самым дасягнуць найбольш „глыбокай“ спэцыялізацыі раёну. Гэтыя работнікі не задумваюцца над тым, якія выгады ці, вярней, якую шкоду ад гэтага атрымліваюць калгасы, гаспадаркі раёну і ўся краіна, і не заўважаюць, як іх памылкі лоўка выкарыстоўвае клясавы вораг, кулак і падкулачнік, у адных выпадках агітуючы за зьнішчэньне жывёлы, у другіх — за пакіданьне неабсеенай пасеўнай плошчы і г. д. Гэтыя-ж імкненьні дасягнуць найбольш глыбокай спэцыялізацыі „ў што-б там ні стала і ў найкарацейшы тэрмін“ знаходзяць сабе выражэньне у праектоўках аргплянаў раёну слынных аграрна-індустрыяльных камбінатаў. Гэтыя праектоўкі ігнаруюць па сутнасьці як устаноўкі партыі па пытаньнях сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, так і сапраўдныя магчымасьці ў адносінах ступені спэцыялізацыі асобнага прадпрыемства ці раёну, забываючы пры гэтым непарыўную сувязь спэцыялізацыі прадпрыемства ці раёну з інтарэсамі ўсёй народнай гаспадаркі ў цэлым.

На тых-жа памылковых пазыцыях стаяць, па сутнасьці, і крытыкуючыя аўтары.

Разьвіцьцё гаспадаркі раёну дзейнасьці МТС праектуецца імі ў поўным адрыве ад разьвіцьця народнай гаспадаркі ў цэлым. Спасылаючыся фармальна на плянавае заданьне, аўтары праводзяць задачу гранічна магчымага насычэньня раёну асноўнай культурай (вып. 1, стар. 102), незалежна ад таго, як гэта культура разьмесьціцца па Саюзу ў цэлым. Разам з тым зусім відавочна, што пытаньне аб межах насычэньня раёну асноўнай культурай, аб ступені спэцыялізацыі раёну на гэтай культуры ня можа быць вырашана безадносна да таго, колькі прадукцыі патрабуецца ўтварыць і якое кола раёнаў на данай вытворчасьці будзе спэцыялізавацца.

Таксама насычэньне раёну другараднымі культурамі праектуецца аўтарамі выключна з пункту погляду раённай гаспадаркі безадносна да таго, як вяліка агульная патрэбнасьць народнай гаспадаркі ў цэлым у гэтых культурах і якія магчымасьці іх вытворчасьці ў другіх раёнах. Яркім прыкладам гэтага служаць разабраныя вышэй выпадкі скарачэньня вытворчасьці зернавых і адмаўленьне ад другіх культур.

Яшчэ больш грубай памылкай аўтараў зьяўляецца іх арыентыроўка на скарачэньне пагалоўя конскага складу ў другім пяцігодзьдзі. І ў зернавых, і ў бураковацукровых, і ў баваўняных МТС праектуецца ўстанавіць да канца другой пяцігодкі стабільнай толькі цягавую магутнасьць (у НР) маючагася ў сучасны момант конскага пагалоўя (вып. 1, стар. 15), ды і то толькі ўмоўна (вып. 1, стар. 137).

Праўда, лічачы на пэрыяд 1933—1937 г. г. асноўным відам энэргіі сельска-гаспадарчай вытворчасьці трактарную, а потым і электрычную энэргію, замест пераважаўшай у 1928—1932 г. г. жывой конскай (вып. 1, стар. 15), аўтары адкрыта не прапануюць паўсямеснага скарачэньня конскага пагалоўя. Яны лічаць, што „да скарачэньня рабочай жывёлы трэба падыходзіць з вялікай асьцярожнасьцю“ (вып. 1, стар. 254) і толькі ў асобных раёнах гэта асьцярожнасьць можа быць адкінута: „у раёне Кунцаўскай МТС ёсьць свае асаблівасьці, якія зьмяняюць нашы адносіны да каня, намі запраектавана скарачэньне коняй для 1937 г. да 3000 супроць 8140 у 1931 г., г. зн. больш, чым на 60 проц.“ (вып. 1, стар. 254) і ўсё гэта—дзея вузкай спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі.

Усе гэтыя „тэарэтычныя“ адшуканьні ня толькі ня могуць дапамагчы практыкам, але падводзяць базу пад памылкі тых работнікаў, якія сваёй недаацэнкай каня ставяць пад пагрозу далейшы ўздым сельскай гаспадаркі.

Як адбіты ў рэцэнзуемай рабоце цэнтральныя баявыя задачы калгаснага будаўніцтва, што захоўваюць усё сваё значэньне і на другую пяцігодку — задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, задача ўсямернага разьвіцьця і ўмацаваньня арцельнай формы калгаснага будаўніцтва? Аўтары высоўваюць як найбольш важную арганізацыйную задачу калгаснага будаўніцтва — узбуйненьне калгасаў.

Аўтары лічаць, што сярэдні разьмер ільнаводных калгасаў у 15—25 гаспадарак „стварае значныя цяжкасьці для арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня ільнаводных калгасаў, росту іх таварнасьці і вытворчасьці, арганізацыі ў іх вытворчасьці і працы“, інакш кажучы:

> „Асноўнымі перашкодамі арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня дробных ільнаводных калгасаў зьяўляецца асобная цяжкасьць кіраўніцтва правільнай арганізацыяй у іх працы, немагчымасьць здавальняючага абслугоўваньня іх трактарнымі атрадамі і цяжкасьці ў будаўніцтве ў іх таварных жывёлагадоўчых фэрм“ (вып. 1, стар. 38).

Далей гэта аргумэнтацыя дэталізуецца. Па думцы аўтараў, падбор кіруючых і рахунковых работнікаў, спэцыялізацыя і павышэньне кваліфікацыі калгасьнікаў, увядзеньне зьдзельшчыны і сацыялістычных форм працы, правільнае злучэньне мэханічнай і цяглавай сілы, ліквідацыя абязьлічкі, падняцьце ўраджайнасьці — усе гэтыя элемэнты арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў упіраюцца ў сваёй арганізацыі ў такую перашкоду, як дробныя разьмеры калгасаў. Больш таго, узбуйненьне калгасаў, па іх думцы, зьяўляецца самым верным сродкам супроць пранікненьня ў іх кулацтва, супроць яго падрыўной работы ў калгасах (вып. 1, стар. 38, гл. таксама вып. 1, стар. 39—40, 152). Так як уся бяда ў калгасах залежыць ад іх дробных памераў, у адміністрацыйным захапленьні, аўтары прапануюць узбуйніць у шмат разоў у асноўным дробныя ільнаводчыя калгасы яшчэ ў 1932—33 годзе (вып. 1, стар. 39).

Прыярытэт узбуйненьня калгасаў перад іх арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньнем устанаўляецца аўтарамі ня толькі для ільняных раёнаў. Таксама, па іх думцы, у раёнах бавоўнаводзтва безадкладнае „узбуйненьне калгасаў побач з выкараненьнем радавых дакапіталістычных адносін пацягне за сабою арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў“ (вып. 1, стар. 152). Тут усё пастаўлена на галаву: аўтары не разумеюць, што неабходнейшай прадпасылкай выжываньня радавых дакапіталістычных адносін у калектывізаваным кішлаке зьяўляецца важнейшым зьвяном у арганізацыйна - гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Узбуйненьне калгасаў і тут да разьмераў кішлак-калгасаў аўтары лічаць першачарговай задачай яшчэ бягучага пяцігодзьдзя (вып. 1, стар. 153). Наогул-жа ў другой пяцігодцы ставіцца задача ўзбуйненьня калгасаў да памераў вытворчага вучастку МТС (!), разьмер-жа апошняга праектуецца самавольна, бяз усякага абгрунтаваньня (вып. 1, стар. 153).

Так, напрыклад, 69 калгасаў у Зеленскай бавоўнянай МТС за пэрыяд другой пяцігодкі будуць узбуйнены да дзесяці (па ліку вытворчых вучасткаў МТС (!) (вып. 1, стар. 152—153). Ці ёсьць тут граніца адміністрацыйнаму захапленьню? Ва ўсякім выпадку аўтары яго ня ведаюць. Ня толькі калгасы узбуйняюцца: „мы будзем мець, — пішуць яны, — зьліцьцё рада МТС у адну машына - трактарную гаспадарку“... (вып. 1, стар. 19.).

У цясьнейшай сувязі з гэтымі „лявацкімі“ ўстаноўкамі знаходзіцца недаацэнка аўтарамі арцельнай формы калгаснага руху. Згодна ўказаньняў ЦК партыі

> „...задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў зьяўляецца ў сучасны момант, перш за ўсё, задачай разьвіцьця і ўзбуйненьня арцельнай формы калгасаў. Пры гэтым ЦК выходзіць з таго, што спробы штучнага паскарэньня пераходу ад арцельнай формы калгасаў да камуны на цяперашняй стадыі разьвіцьця калгасаў зьяўляюцца сур'ёзнай небясьпекаю; супроць гэтай небясьпекі пераскакваньня праз форму сельска-гаспадарчай арцелі, якая яшчэ не разгорнута дастаткова і не замацавана, ЦК перасьцерагае ўсе партыйныя арганізацыі“ (з пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага 1932 г.).

Яркім прыкладам ігнараваньня сутнасьці арцельнай формы калгаснага руху, якая па зусім правільным азначэньні ЦК партыі яшчэ недастаткова разгорнута і недастаткова замацавана, зьяўляюцца погляды аўтараў на абагуленьне малочнай жывёлагадоўлі. „Цяляты, падцёлкі і нецелі будуць у асноўным абагулены яшчэ ў 1933—1934 гг., малочная жывёла—у 1935 годзе, у сярэдзіне другой пяцігодкі“ (вып. 1, стар. 41, таксама стар. 138). Але гэтага мала. Паставіўшы задачу поўнага абагуленьня ўсёй малочнай жывёлы яшчэ ў пачатку другой пяцігодкі, к канцу яе, аўтары лічаць, што „асноўная-ж маса таварнай малочнай жывёлы к канцу другой пяцігодкі будзе сканцэнтравана на дагаворных пачатках у трох буйных электрыфікаваных малочна-таварных фэрмах“ (вып. 1, стар. 41).

Ці-ж не эразумела, што гэтыя ўстаноўкі на звышударнае і поўнае абагуленьне малочнай жывёлы зьяўляюцца адбіткам і свайго роду „тэарэтычным абгрунтаваньнем“ меўшайся ў радзе раёнаў практыкі прымусовага абагуленьня кароў і дробнай жывёлы, з такой рэзкасьцю асуджанай у пастанове ЦК партыі ад 26-III 1932 г.?

Замест поўнага абагуленьня жывёлы неабходна няўхільна праводзіць у жыцьцё рашэньне аб тым, каб у кожнага калгасьніка былі свая карова, дробная жывёла, птушка і г. д. Гэтыя рашэньні непасрэдна выцякаюць з неаднаразава пацьверджаных указаньняў ЦК партыі аб неабходнасьці арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў у іх арцельнай форме (якая зьяўляецца на данай стадыі пануючай).

**Я. Міколенка.**

(*Працяг будзе*).

---

**Адказны рэдактар С. МІЦЬКОЎ.**

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 2806. 2.500 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—2.